Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 11 (65) Пятніца, 6-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Абвестка.

Цэнтральная Рада Беларускага Т-ва «Прасьвета» гэтым паведамляе **настаўнікаў-беларусаў**, каб прысылаючы рэестрацыйныя анкеты, болей не прыкладалі дакумэнтаў з просьбаю аб паступленьні на курсы. Прашэньні аб прыняцьці на курсы яны могуць скіроўваць да адпаведных школьных уладаў, пасылаючы туды і свае дакумэнты. Т-ва «Прасьвета» прадставіла ўжо больш як патрэбны лік кандыдатаў на курсы і нікога на маючыя быць курсы больш прадстаўляць ня будзе. Курсы будуць урадовыя і прыём на іх залежыць ад школьных уладаў.

*Ц. Р. Б. Т-ва „Прасьвета"*.

## Што гэта значыць?

Пытаньне гэткае паўстае перад намі пасьля азнаямленьня з незразумелымі злыбедамі нашага гаротнага настаўніцтва ў провінцыі. Пазбаўленае свае прафэсіянальнае працы беларускае настаўніцтва стукаецца ў дзьверы канцэлярыяў п.п. павятовых школьных інспэктароў, шукаючы магчымасьці ізноў дабіцца свае працы ў школе, перарванай войнамі, рэвалюцыяй і ўсімі наагул падзеямі апошніх гадоў, віхрам праляцеўшымі па краі нашым.

У зьвязку з хуткім адчыненьнем, хоць і невялічкіх па ліку слухачоў, курсаў для беларусаў-настаўнікаў, зьяўляецца зусім зразумелай зацікаўленасьць нашых настаўнікаў справаю роднае школы.

І вось, няведама чаму і для якое мэты, дзісенскі павятовы школьны інспэктар бярэ ад настаўнікаў падпіску гэткага зьместу, якая саўсім не адпавядае навет праўдзе. Бо вось пішуць нам настаўнікі, даўшыя інспэктару падпіску аб тым, што яны *беларускае мовы не разумеюць*... Пішуць нам і самі дзівяцца—як гэта яны, мужыцкія беларускія дзеці, падпісаліся ў тым, чаго на дзеле няма. Калі-б п. школьны інспэктар узяў, напрыклад, падобную падпіску аб неразуменьні беларускае мовы ад прыехаўшага ў наш край вучыць дзяцей настаўніка родам з Пазнані, Паморра, Галіцыі ці навет з б. Конгрэсоўкі, дык тут усё было-б зразумелым.

Мы пэўны, што кожны настаўнік-беларус разумее і ад дзіцячых гадоў разумеў сваю родную мову. Справа іншая, што настаўнік гэты, па прычынах чыста гістарычных, *можа быць незнаёмым з роднаю моваю настолькі, каб магчы выкладаць яе у школе.*

Дык, ці-ж не для таго, каб даць гэтую магчымасьць выкладаньня спроектаваны для настаўніцтва курсы?

Нашто разводзіць тую канцэлярскую фармалістыку, якая абсолютна нязгодна з жыцьцём?

Як-жа ж гэта настаўнік, які падпісаўся, што роднай мовы не разумее, зможа слухаць лекцыі, выкладаныя гэтаю самаю моваю на курсах?

Ня хочацца й думаць, каб дайшло ўжо да таго, што спосабам падобнае падпіскі школьны павятовы інспэктар забракоўваў нашых настаўнікаў, як кандыдатаў на курсы, маючы ў руках *фармальны* довад таго, што яны свае роднае мовы... не разумеюць, хаця лёгічна развяжаючы выходзіць так: той ці іншы настаўнік данае мовы *навет* не разумее; як-жа ён можа ўразумець яе за досіць кароткі час курсаў настолькі, каб мог моваю гэтаю рабіць выклады ў школе?

Калі школа беларуская прызнана за патрэбную навет дзяржаўным урадам, правёўшым аб ёй закон 31 ліпня 1924 г. цераз законадаўчыя органы Польскай Рэспублікі, дык варта было-б падыйсьці да ўвядзеньня гэтае школы ў жыцьцё бяз ніякага лішняга бюракратызму.

А гэты бюракратызм дзісенскага інспэктара, вымагае ня толькі „dowodu obywatelstwa", які беларусу дастаць, пры яго вясковай далечыні ад адміністрацыйных цэнтраў і пры ўбогасьці, ня так ужо і лёгка. Бюракратызм даходзіць навет да таго, што вымагае гэткае падпіскі ад беларуса-настаўніка, якая выяўляе сабою non sens.

Народ беларускі, як і польскі, ці іншы які, нясе ўсе грамадзянскія абавязкі перад дзяржаваю, ня мацаючы, ці ёсьць у яго кішані пашпарт, і ніякі вураднік, зьбіраючы, напрыклад, дзяржаўныя падаткі з насяленьня, аб гэтым пашпарце ня пытаецца.

Сам Урад Рэспублікі стараецца ўпрасьціць і ўрэгуляваць гэту балючую пашпартовую справу і маецца выдаць аб гэтым адпаведныя распараджэньні, а гэта ўжо моцна сьведчыць аб тым, што справа пашпартоў рэгулявалася дасюль слаба. Пасьля гэтага наўрад ці можна асабліва так чапляцца да момэнту фармальнай адсутнасьці ў каго-нібудзь з нашых настаўнікаў, якія хочуць слухаць курсы, дакумэнту аб дзяржаўнай прыналежнасьці. Як прасьцей гэтыя дакумэнты можна будзе адтрымліваць, дык яны ў кожнага й будуць.

А тымчасам, як з пісьмаў настаўніцкіх бачым (уласнаручна-ж імі напісаных), у душы беднага беларускага настаўніка западае зусім зразумелы страх, ці ня хочуць яго выкваліфікаваць для школы чыста-польскае, каб замест колішняе нядаўняе русіфікацыі занявца мог ён цяпер... палянізацыяй сваіх родных маленькіх братоў-беларусаў.

Настаўнік ведае і разумее, што русіфікатарам ён быў дзеля таго, што быў расейскім *нявольнікам* і царскім падданым. У палажэньні *грамадзяніна* Польскай Рэспублікі ён быць *нявольнікам* ня можа.

І сьвядомы нацыянальна настаўнік-беларус ніколі ні на якую палянізацыю сваіх братоў ня пойдзе, ведаючы добра, што асыміляцыя пагражае гэтым яго братом утратаю таго, што ад самое прыроды зьяўляецца ў кожным чалавеку найбагацейшай азнакай яго самабытнасьці. Асыміляцыя-ж — гэта толькі адзін з відаў рабства.

І не адганяць трэба ад школы беларуса-настаўніка безсэнсоўнымі падпіскамі аб неразуменьні свае роднае мовы, а прыцягнуць яго да любай яму працы, на якую ён палажыў можа лепшыя, бо маладыя, гады свайго жыцьця.

Рэспубліка мусіць быць зацікаўлена ў якнайшырэйшай прасьвеце сваіх грамадзян, бо ад высокага прасьветнага роўня іх залежыць нязломная сіла сучаснага гаспадарства.

Што-ж значыць незразумелая падпіска, вымаганая ад настаўніцтва тым школьным адміністратарам, які пастаўлены хіба дзеля таго, каб дбаць аб разьвіцьці школьнае справы ў даручанай яму акрузе? Ці значыць яна, што фармалістыкай, абапёртай на простай выдумцы канцылярскіх мудрацоў, а не на вымогах жыцьця й закону можна пайсьці далёка ў школьнай справе?

Не! Гэта азначае толькі тое, што бюракратызм заганяе лёгічную думку ў тупік пакрыўджанага лёсам нашага настаўніцтва, робячы благі жарт з усяе справы нашае роднае школы, аб жаданьні якой не маўчыць ужо наш сярмяжны сялянскі люд, выйшаўшы з „вастрогу народаў", якім была для яго быўшая Расея.

Народнае жаданьне свае школы так ці йначай, а ўсё-ж такі законамі польскімі загарантована і ніякі бюракратызм сілы гэтага жаданьня і сілы законаў ня зломіць.

## Палітычны агляд.

Апошні час азначыўся сьмерцю двух выдатных палітычных дзеячоў, у асобах якіх эўропэйская соцыяль-демакратыя панясла вялікую страту. Гутарка йдзе аб швэдзкім прэм'еры Брантінгу і нямецкім прэзыдэнце Эбэрце, якія былі павадырамі швэдзкае і нямецкае соцыяль-дэмакратыі: Брантінг у апошнія гады шмат памог справе міру ў Эўропе, будучы ўвесь час прадстаўніком ня толькі Швэцыі, але й рэшты ўсіх скандынаўскіх дзяржаваў у Радзе Лігі Народаў. Ен быў самым дужым абаронцам ідэі міру і справядлівасьці на арэне Лігі Народаў. Уся Эўропа павінна,

галоўным чынам, в гэтага пункту гледжаньвя ацэньваць утрату ў асобе сайшоўшага з палітычнае сцэны Брантінга. Выпадае шчасьце на некаторыя дзяржавы, якія пры сваіх малых разьмерах граюць буйную ролю ў сусьветнай палітыцы, дзякуючы таму, што могуць выставіць дзяржаўных дзеячоў з выдатнымі талентамі. Да ліку гэткіх дзяржаваў належыць, памін іншым, Чэхаславакія, што мае свайго Бэнэша, які грае ня меншую ролю, як міністры заграмічных справаў Велікабрытаніі або Францыі, і Швэцыя, якая мела Брантінга. Бывае так, што ўсе ведаюць аб істнаваньні якой-нібудзь дзяржавы, як Галяндыя, Гішпанія, Швэйцарыя і г. д., але ня ведаюць навет, які тамака прэм'ер ці міністар заграмічных справаў. А Брантінг і Бэнэш заўсёды быў на языку ўсіх, навет ня цікавіўшыхся палітыкай. Гэткія асобныя выдатныя дзеячы, якія родзяцца вякамі, паднімаюць аўторытэт сваіх маленькіх дзяржаваў да непрапарцыянальна высокіх межаў.

Цяпер паглянем на другі бок дзейнасьці Брантінга, якая яшчэ чакае свае ацэнкі ад гісторыі. Паглядзімо на Брантінга, не як на прэм'ера швэдзкага ўраду і прадстаўніка скандынаўскіх дзяржаваў у Лізе Народаў, а як на павадыра швэдзкае соцыяль-дэмакратычнае партыі, якая адна ўва ўсёй Эўропе адтрымала буйнейшую перамогу на выбарах і трымае дзяржаўную ўладу ў сваіх руках. Перамогаю гэтаю, якою ганарыцца ўся эўропэйская соц.-дэмакратыя, швэдзкія соц.-дэмакраты абавязаны асабіста Брантінгу. Ён паходзіў з заможнае вурадніцкае сям'і. Бацька яго быў настаўнікам. У сярэдняй школе ён здружыўся з цяперашнім швэдзкім каралём, ня гледзячы на рэспубліканскія перакананьні, як соцыялістага. Спачатку ён займаўся астраноміяй, а затым аддаўся палітыцы й соцыялізму. У 1896 г. Брантінг робіцца рэдактарам соцыялістычнае газэты „Socialdemocraten" і застаецца ім нязьменна да апошніх дзён свайго жыцьця. У 1889 г. залажыў швэдзкую соц.-дэмакратычную партыю, ад якое ў 1896 г. Брантінг быў толькі адзіным паслом у парлямэнце. А ў 1924 г. швэдзкая соцыяль-дэмакратыя правяла ў парлямэнт 104 сваіх паслоў на агульны лік 230. Швэдзкая соц.-дэм. партыя зьяўляецца найдужэйшаю ў краі і ў парлямэнце. Адсюль відаць, што Брантінг быў сапраўдным закладчыкам і кіраўніком швэдзкае соцыяль-дэмакратыі, ў асобе якога дэмакратыя ўсяго сьвету страціла вялікага палітыка, грамадзкага дзеяча і выхаваўцу.

Крыху ў інакшым сьвятле выступае асоба прэзыдэнта Нямецкае Рэспублікі Эбэрта, памёршага 28 лютага. Эбэрт болей вядомы, як быўшы павадыр самае дужае на ўсім сьвеце нямецкае соцыяль-дэмакратычнае партыі і блізу што нічым ня выдзяліўся на пасадзе прэзыдэнта рэспублікі. Кар'ера яго чыста амэрыканская і вынесла яго на паверхню толькі хваля рэвалюцыі 1918 г. Радзіўся Эбэрт у 1871 г. ў сям'і беднага краўца ў Гэйдэльбэргу, які славіцца сваім унівэрсытэтам. Але Эбэрт ня мог пазнаць салодкасьці унівэрсытэцкай адукацыі. Скончыўшы пачатковую народную школу, якая абавязкова ў Нямеччыне для ўсіх, Эбэрт паступіў чалядніком да майстра, выробляўшага сёдлы ў Гэйдэльбэргу. У гэты час ён пазнаёміўся з навукай соцыялізму, якім глыбока захапіўся і на 18 годзе жыцьця ўвайшоў у партыю. У 1910 г. пераехаў у буйны прамысловы цэнтр Брэмэн, дзе аддаўся партыйнай працы, а затым быў рэдактарам соцыялістычнае газэты „Bremer Bürgerzeitung". У хуткім часе быў выбраны паслом ад Брэмэна ў рэйхстаг і сэкрэтаром партыі. Павадыр ням. соц.-дэмакратыі Бэбэль зьвярнуў на яго сваю ўвагу і правёў у прэзэсы цэнтральнага бюра партыі у Бэрліне. Пасьля сьмерці Бэбэля Эбэрт разам з Гаазэ кіраваў усею нямецк. соц.-дэмакр. партыяю. Падчас вайны адбыўся раскол у партыі нямецкіх соцыялістых. Гаазэ аддзяліўся з меншаю групаю гэтак празваных „незалежных соцыялістых', а Эбэрт з Шэйдеманам застаўся на чале большае групы, празванае „соцыялістымі большасьці".

Эбэрт вызначыўся па палітычнай дзейнасьці голькі падчас вайны. У 1915 г. быў выбраны старшынёю соцыяль-дэмакратычнага клюбу ў рэйхстагу і быў увесь час староньнікам надзяленьня ўраду крэдытамі на вядзеньне вайны; ў той час, як незалежныя соцыялістыя галасавалі проці крэдытаў. І толькі пасьля праграньня вайны крута адмежаваўся ад імпэратара. Пасьля рэвалюцыі Эбэрт быў выбраны у 1919 г. часовым прэзыдэнтам, а затым у 1922 г., пасьля зьмены констытуцыі, парлямэнт зацьвярдзіў яго на гэтай пасадзе да 1 ліпня гэтага году. Займаючы першую пазыцыю ў гэткай вялікай дзяржаве ў момэнт самых буйных палітычных падзеяў, Эбэрт нічым ня выказаў сабе ў палітычным сэнсе, і калі нямецкая рэспубліка толькі, пакуль што, на паперы, дык гэтым яна абавязана, галоўным чынам, першаму яе прэзыдэнту Эбэрту. Ён быў толькі бязьлітасным датычна камуністых, тымчасам як на работу монархістых глядзеў праз пальцы. Гэткія адносіны Эбэрта да вырастаўшае рэакцыі з правага боку давялі да таго, што цэх рабочых-сёдзельнікаў выключыў яго з ліку сваіх ганаровых сяброў. Нацыяналістыя-ж, ня гледзячы на ўсю яго спагаднасьць датычна іх, стараліся ўсялякім спосабам набрахаць на яго і скомпрамітаваць. Ад гэтае брахні навет не ратавала яго высокая пасада прэзыдэнта і закон аб абароне гонару першага грамадзяніна рэспублікі. У некалькіх нацыяналістычных газэтах зьявілася абвінавачаньне Эбэрта ў дзяржаўнай здрадзе падчас рэвалюцыі... Пасьля яго засталася цяжкая спадчына ў постаці тых палітычных казыроў, якія маюць у Нямеччыне монархістыя. Яшчэ пры жыцьці Эбэрта яны з нацыяналістымі рыхтаваліся ўсімі сіламі правясьці на будучых усенародных выбарах у прэзыдэнты свайго чалавека. Сьмерць Эбэрта толькі прысьпяшыла зьдзейсьненьне гэтага пляну. Нацыяналістыя вызначаюць у прэзыдэнты рэспублікі адмірала Тірпіца, заўзятага монархістага, які падчас сусьветнае вайны, будучы марскім міністрам, абвясьціў бязьлітасную падводную вайну і гэтым настроіў проці Нямеччыны ўвесь сьвет. Калі толькі монархістым удасца правясьці кандыдатуру Тірпіца, дык гэта будзе завяршэньнем нямецкага парадоксу: на чале рэспублікі будзе стаяць самы пераконаны монархісты. У перадчаснай сьмерці прэзыдэнта Эбэрта ёсьць нешта сымболічнае для Нямецкае Рэспублікі.

*N.*

# Беларусы!

*Калі маеце дзяцей школьнага веку, дык памятайце, што да 31 сакавіка гэтага году вы павінны кожны ад сябе асобна падаць Павятоваму Школьнаму Інспэктару дэклярацыю аб жаданьні мець у вашым абводзе школу з беларускаю моваю, як выкладоваю!*

## Некалькі словаў аб праваслаўі.

Пытаньне аб старым і новым стылі ў праваслаўнай царкве, разьдзяліла Віленскіх праваслаўных расейцаў на дзьве групы, якія павялі паміж сабою барацьбу. На сходах, якія адбыліся ў Вільні і са спрэчак на шпальтах газэт выявілася, што ідзе не аб стыль, а аб тыя уплывы на царкоўную ўладу, якія кожная з гэтых групаў хацела захаваць за сабою.

Для нас, беларусаў, пытаньне аб старым і новым стылі зьяўляецца надта важным пытаньнем, бо вёска з якой складаецца, галоўным чынам, праваслаўны беларускі элемэнт, рашуча стаіць за стары стыль.

Уся гэтая барацьба, якая цяпер ідзе паміж расейскімі групамі вылілася ў канцы канцоў у тое, ці мелі права падносіць абраз архіепіскапу Хвядосу, ці не? ці трэба падносіць залаты крыж аднаму з' сьвяшчэньнікаў, ці не? Гэтыя спрэчкі нас мала абходзяць. Для нас важна, як будзе вырашана пытаньне аб старым стылі.

Новы стыль, які ўвяла праваслаўная духоўная ўлада, вёска ня прызнала. Можа каб да гэтага падайшлі асьцярожна, каб больш лічыліся з опініяй грамадзянства, то ўвядзеньне новага стылю не спаткала-б спраціўленьня з боку праваслаўнай беларускай масы.

Але-ж дзеля гэтага трэба, каб тыя, якія ўводзілі-б гэтую рэформу, блізка стаялі да беларускага селяніна, каб добра ведалі яго душу.

Нашыя духоўныя пастыры нічога супольнага з беларускім народам ня маюць. Гэта прышлы элемэнт з русіфікатарскімі тэндэнцыямі, які далёка стаіць ад народу. Нашыя духоўныя пастыры ня хочуць зразумець, што яны павінны апірацца на народ, што яны павінны запраўды стаць духоўнымі правадырамі народу. Што толькі на духоўным аб'яднаньні з народам, можа ўмацніцца праваслаўе, але не на сьляпой паслухнянасьці дэкрэтам кансісторыі. Увядзеньне новага стылю стварыла яшчэ большую прорву паміж народам з аднаго боку і духавэнствам з другога. Такая сітуацыя яшчэ больш пагоршыла палажэньне праваслаўя на Беларусі і ўжо навет пагражае самому яго істнаваньню.

Трэба-ж, у канцы канцоў, зразумець, што ўратаваць сітуацыю можна толькі больш цесным аб'яднаньнем народу і духавенства; што духавенства павінна быць з гэтага самога народу; што раз ня будзе *беларускага* духавенства, дык праваслаўе ня ўтрымаецца сярод народу. Трэба памятаваць, што рэлігія — гэта адзін з стымулоў, якія ўтрымліваюць у народзе пачаткі сямейственасьці і гаспадарственасьці.

І вось у газэце „Виленское Утро" мы чытаем, што на пасаду сэкрэтара Віленскай Духоўнай Кансысторыі вызначаецца Архіепіскапам Хвядосам нейкі п. *Кононцев*.

Віленская Епархія складаецца пераважна з беларусаў. Велікарусаў невялічкая жменька, якая месьціцца ў Вільні, — і на пасаду ў вышэйшы духоўны Урад — ў *Кансысторыю* — Архіепіскап Хвядос выстаўляе кандыдата — велікаруса. Гэта значыць, што Архіепіскап Хвядос ня лічыцца абсолютна з сваею епархіяй. Архіепіскап Хвядос ня хоча прызнаць, што беларускае насяленьне хоча мець у сваёй епархіі не *велікарускіх*, а сваіх беларускіх духоўных вураднікаў.

Выхад з гэтага адзін; — праваслаўнае *русское* духавенства ня хоча выпусьціць з сваіх рук царкоўнае ўлады; што ўсе гутаркі, што духавенства павінна быць нацыянальным, што яно павінна блізка стаяць да народу, так і застаюцца гутаркамі і *пажаданьнямі* з боку вышэйшае царкоўнае ўлады. Гэта значыць, што царкоўная ўлада зусім ня думае аб умацненьні праваслаўя, якому цяпер пагражаюць з усіх бакоў.

Б'е гадзіна, калі ўсе праваслаўныя беларусы павінны аб'яднацца і рашуча выступіць проціў русіфікацыі царквы.

Сярод беларускага насяленьня царква праваслаўная павінна быць беларускай!

**У. Б.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

„Ilustr. Kurjer Codzienny" піша, што навагрудзкі ваявода, гэнэрал Янушайціс, выдаў інструкцыі паліцэйскім эскортам для вартаваньня паяздоў у ўсходніх ваяводзтвах. Эскорта складаецца з *пшодовніка* і 13 паліцыянтаў, азброеных стрэльбамі, пісталетамі, кулямётам, ракетамі для асьвятляньня і рэфлектарамі. Усе паліцэйскія жаўнеры, якія прыпадкова едуць поездам, будуць месьціцца разам з эскортаю ў сярэдніх вагонах. Калі поездам едзе афіцэр, дык ён прымае каманду пры магчымым прасьледаваньні бандытаў. У выпадку нападу эскорта абсаджвае вызначаныя месцы, а іншыя жаўнеры адкрываюць карабіновы агонь, не дапушчаючы бандытаў да поезду. Пасьля адбіцьця нападу палова эскорты разам з усімі ваеннымі прасьледуе бандытаў. У поезьдзе будзе ехаць і фэльчар.

Пасольскі клюб „Wyzwolenie" на паседжаньні 26 лютага аднага-

лосна пастанавіў рашуча выступіць проці конкордату, зробленага з Ватыканам.

У Варшаве адбыўся абмен ратыфікацыйнымі дакумэнтамі аб паштова-тэлеграфнай конвэнцыі паміж Польшчаю і СССР, падпісанай у Маскве 24 траўня 1923 г. Паводлуг конвэнцыі, з 17-га гэтага сакавіка паміж Польшчай і СССР мае адбывацца перасылка заказных пісьмаў, тэлеграмаў і г. д. З 2-га траўня пачнецца перасылка паштовых пасылак і грашавых пакетаў.

Вярнуўся ў Варшаву з паездкі па *крэсах* віцэ-міністар унутраных справаў Смольскі.

### За граніцай.

У **Нямеччыне** 28-га лютага памёр прэзыдэнт рэспублікі, Эбэрт. Усенародныя выбары новага прэзыдэнта маюць адбыцца, як быццам, 3-га траўня.

Паводлуг вестак з **Ангоры, турэцкі** ўрад Фэты-бэя падаўся ў адстаўку. Прычынаю была няпрыхільная для ўраду дыскусія над унутранай палітыкай.

У **Баўгарыі** на кватэры арыштованага галавы баўгарскае чэ-ка Гэліяскава знойдзены кампраміта-цыйныя дакумэнты. З папераў яго тайнага архіву высьняецца, што на справу бальшавізацыі Баўгарыі ён адтрымаў 300 мільёнаў леваў. Пры арышце сконфіскована ў яго 35.000 леваў і 60.000 дынараў.

Паводлуг вестак з **Нью-Іорку**, афіцыёзнае запярэчаньне амэрыканскага ўраду газэтным чуткам аб хуткім прызнаньні **Амэрыкаю** СССР гаворыць, што амэрыканскі ўрад не замерваецца прызнаваць радавае ўлады, пакуль у б. Расеі пануюць бальшавіцкія парадкі.

ПАТ перадае вестку з **Масквы**, што ў адказ на ноту Карахана аб скліканьні **кітайска-савецкае конфэрэнцыі, кітайскі** ўрад назначыў дэлегатаў дзеля навязаньня перагавораў.

Новы **прускі** кабінэт Маркса мае складацца з 2 нацыяналістых, 2 прадстаўнікоў партыі цэнтру, 1 народніка, 1 дэмакрата і 2 соцыяль-дэмакратаў. Портфэль міністра ўнутраных справаў Маркс замерваецца даручыць соцыялістаму Сэвэрынгу, але нацыяналістыя на гэта заявілі, што не ўвайдуць у кабінэт, у якім засядаў-бы Сэвэрынг.

**Парыскі „Journal“** піша, што працэс камітана Садуля пачнецца ў ваенным судзе ў пачатку красавіка месяца.

У **Рызе (Латвія)** адбыліся выбары гарадзкога самаўраду. Правыя латыскія групы адтрымалі 11 месцаў, цэнтр — 14, соцыялістыя 31 месца, камуністыя 7 і нацыянальныя меншасьці 27 месцаў, з якіх 15 маюць немцы. Камуністыя страцілі блізка што палову тых, якія раней мелі, месцаў. Найбольшую ўдачу адтрымалі соцыялістыя.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Дзе найбольш здараецца няшчасных выпадкаў?

Ну, напэўна ў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах.

Статыстычныя даныя за 1923 год паказваюць, што ў годзе гэтым ня менш як цэлыя 84.000 асобаў загінулі ад няшчасных здарэньняў. Гэта значыць, што ў Амэрыцы штодня гіне насьмерць ад няшчасьцяў 260 чалавек. З усяго ліку ахвярамі самаходаў было 15.714 чалавек, выпадкаў на чугунцы — 8.078, пры працы загінула 2.324 чалавекі, ад трамвайных катастрофаў загінула 1.771 чал. Больш як 15.000 чал. загінула ўпаўшы, 1.304 было спаленых, ўтапілася 6.524 чал. У параўнаньні з 1922 годам лік выпадкаў сьмерці павялічыўся на 7½ тысячаў.

А на Беларусі яшчэ здараюцца старыя людзі, якія баяцца навет езьдзіць чугункаю! Затое, мусі, і няшчасных здарэньняў у нас ня прыходзіцца аблічваць навет і на сотні.

### Паменшаньне выпадкаў самасуду над нэграмі ў Амэрыцы.

У леташнім, 1924 г., у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах лік нэграў, загінуўшых ад гэт. зван. суда Лінча (самасуд) быў самым меншым за апошнія гады—(ўсяго 16 выпадкаў). У пазалеташнім, 1923 годзе, лік гэты быў у два разы большым, а яшчэ значна большым некалькі дзесяткоў гадоў назад, як напр. у 1892 г., калі зьлінчована было 255 чалавек. З ахвяраў самасуду ў мінулым годзе 6 нэграў былі выцягнены з вастрогу, тры вырваны з рук паліцыі, але ў той самы час у 45 выпадках паліцыя патрапіла не дапусьціць да лінчаваньня (выпадку калі натоўп забівае насьмерць сваю ахвяру). Прычынай паменшаньня выпадкаў гэтае нялюдзкае расправы служыць, як энэргічная пропаганда проці г. зв. суда Лінча, так і заўважаны ў апошнія гады адліў нэграў з паўднёвых штатаў у паўночныя, які адбываецца галоўным чынам па прычынах эканамічных; але ў гэтым выказваецца таксама й імкненьне чорнаскурых людзей (нэграў) уцячы з тых штатаў, дзе над імі найболей здараюцца гвалты.

Пара было-б саўсім ськончыцца самасудам над чырвонымі людзьмі дый яшчэ ў гэткім культурным краі, як Амэрыка!

### Страшэнныя ахвяры вайны.

Паводлуг апублікованых Міжнародным Бюром Працы даных, страты падчас мінулае сусьветнае вайны азначаюцца гэткімі цыфрамі:

У 1914—1918 г. г. агулам ваяваўшымі дзяржавамі было змобілізована 69,88 мільён. людзей, з якіх 15,07 мільён. у Расеі, 13,25 міл. у Нямеччыне, 9 міл. у Аўстра-Вэнгрыі, 7,93 міл. у Францыі, 5,7 міл. у Велікабрытаніі й Ірляндыі, 5,61 міл. у Італіі, 4,27 міл. у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах.

Прапарцыянальна мужчынскаму насяленьню, ня лічачы дзяцей і няздольных да ваеннае службы старыкоў, процант мобілізованых складае ў Нямеччыне 64,9% у Францыі 69,4%, у Аўстра-Вэнгрыі 65,4%, у Італіі 46,3%, у Англіі 39,2%, у Злучаных Штатах 13,2%.

Забіта, або згінула няма ведама як, 2 мільёны немцаў, 1,7 мільён. расейскіх салдатаў, 1,54 міл. аўстра-вэнгерцаў, 1,4 міл. французаў, 750.000 італьянцаў, 744.000 ангельцаў, 68.000 амэрыканцаў.

### Край самаходаў.

Паводлуг офіцыяльнае статыстыкі ўраду Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў, на 31-е сьнежня леташняга году, у Злучаных Штатах было ў руху 17.740.236 самаходаў, або ў сярэднім па 1 самаходзе на 6 жыхароў. У працягу апошняга году лік самаходаў павялічыўся на 2½ міл.

## Навіны ў тры радкі.

— Баўгарскі ўрад асыгнаваў 80 мільёнаў леваў на абарону заходняе баўгарскае граніцы.

— У Ніктэро, прадмесьці Рыё-дэ-Жанэйро (Амэрыка) ўзарваўся склад газы. 100 чалавек забіта і 600 ранена. 3000 дамоў зруйнована.

— Усё золата дзяржаўнага банку СССР будзе пераліта ў залатыя чырвонцы разьмерам, пробаю і вагай гэткаю самаю якраз, як царскія дзесяцьрублёўкі.

— У Петраградзе ў Лігаўскім завулку згарэла мэдыцынская лябораторыя.

— У Бердзянскім павеце ў заселеных баўгарамі вёсках хварэе тропічнай малярыяй 60% насяленьня.

— За 10 апошніх гадоў у Амстэрдаме (Галяндыя) сьмяротнасьць паменшылася з 11,52 да 8,76 на 1000 жыхароў, а сьмяротн. новароджаных паменшала з 6,2 да 3,39 на 100.

— 28 лютага ў Амэрыцы 2 мінюты адчувалася землятрасеньне ў Нью-Іорку і Монрэалі.

— Як перадае „Ilustr. Kur. Codz.“, лік безработных цяпер у Польшчы раўняецца 132.000, з якіх падмогамі фонду безработных карысталіся 82.000 чалавек.

— Управа фонду безработных у Львове натуе ў гэтым месьце 556 безработных, падмогу адтрымлівае 298 чал. Безработных інтэлігэнтаў занатована 729 чал.

— 2 сакавіка ў Аўстрыі ўведзена новая валюта. Монэтнаю адзінкаю зьяўляецца 1 шылінг.

## У С.С.Р.Р.

### Першы выпуск Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

У „Савецкай Беларусі“ (№ 43 за 22. II. 25 г.) знаходзім кароткую заметку на апошняй старонцы аб урачыстым акце першага выпуску студэнтаў факультэту грамадзянскім навук Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Акт гэты адбыўся 20 лютага сёл. году. Скончыла факультэт 55 студэнтаў і 5 здалі экзамен экстэрнамі. Па нацыянальнасьці выпуск дзеліцца гэтак: 19 беларусаў і 32 жыды, а рэшта — належаць да іншых нацыянальнасьцяў.

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

## Маленькі фэльетон.

### Справаздача паслоў або сон выбаршчыка.

(Фантазія).

*Гл. № 10 „Грам. Гол.“.*

А на „правым баку“ стала нешта зусім нэрвова — ўсе неяк заварушыліся, зашапталіся... Пачалося тварыцца нешта зусім неспадзянае, зусім незалежнае ні ад справаздачы, ні ад інцыдэнту з „фігураю“, ні навет ад даносіўшыхся ўжо нейкіх выкрыкаў з буфэтнага пакою... „Правыя“ то падыймаліся з месца, то ізноў сядалі... пераходзілі адзін да аднаго і неяк групіраваліся — то каля малое вусатае фігуры, то ля фігуры высокай і сытай.... Ужо між шоптаў пачалі даносіцца досіць галосныя выразы...

— Літаральна ніхто нічога... адны трутні... — няслося з групы малога—вусатага.

— „Выяжджаю гэта я, панімаеце-лі і... прыяжджаю, панімаеце-лі... а тутака, панімаеце-лі...“ няслося з групы высокага і сытага.

Нейкая маладая чорнавалосая і зьбялеўшая фігура аж пенілася, аж на сьцяну амаль-што ня лезла, нешта некаму даказваючы...

Высокая, таксама сытая, відаць добра ад'еўшаяся, нейкая ў шэрай вопратцы фігура, з прыложанай да левага вуха далоняй ўсё падходзіла то да гэтай, то да тэй групы з нейкімі запытаньнямі... Нехта на яе вылаяўся. „Га-а?! — спыталася яна, ўжо прыкладаючы абедзьве далоні да вушэй. Тутака ўжо нехта вылаяўся галасна амаль-што не на ўсю салю... Усе аж падскочылі.

— „Вось, панімаеце-лі, бачыце“ — раздалося з групы высокага і сытага, і ўвесь правы бок падняўся, зашумеў і заварушыўся...

— Што гэта ў іх?! — маланкай праняслося ад прэзыдыяльнай камісіі аж да хораў...

А тутака, як громам: „раскол, раскол у „правых“—і пакацілася рэхам па ўсім памешканьні Грамадзянскага Сабраньня.

— „Раскол, раскол“... захіхікаў і заліўся на эстрадзе старшыня і амаль што не запляскаў рукамі, але ўспомніў нешта і спахапіўся...

— „*Во имя Отца и Сына*“... пачала шаптаць нечая барада з лёжы сэнатараў...

— „*Amen*“ — ужо не прашаптала, а нейкім фальцэтам працягнула сутана з лёжы паслоў...

— А дзякуй Богу, калі раскол! — томна ўздыхнула пані А. і апусьціла свае заўсёды прыгожыя вочы.

— А як-жа будзе далей?! — яшчэ закрычаў нечы жаноцкі голас з хораў...

У гэты самы момэнт адчыніліся дзьверы буфэту і з вясёлым пяяньнем куплетаў з „птушкі шчасьця“ паказаліся сябры мешанае камісіі разам з пасламі Гарбуляй, інжынерам і сэнатарам Харашэўскім, дый яшчэ няведама калі прымкнуўшымі да іх прафэсарам з пасольскай лёжы і „апошнім з аляксюкоўцаў“. Усе чырвоныя... потныя...

Перамяшаўшыся за чаркай, яны нястройнымі, як іхнія палітычныя пагляды, галасамі цягнулі на ўсю салю:

„Ужо ня вернемся да хаты
і гарэлку ня спынім,
будзем жыць цяпер багата,
як жывецца ў клюбе тым“.

Старшыня нэрваваўся, нэрвова пачаў званіць і заклікаць да парадку, але вясёлы настрой, перакінуўшыся з буфэтнага пакою, пачаў адчувацца і на салі. Дзе-ня-дзе сталі падпяваць. А тут яшчэ пачуліся галасы: „скрыпачку... скрыпачку просім пана прафэсара...“ і ўжо пан прафэсар быў гатоў і навет скіраваўся на эстраду, і здавалася, што ўся нэрвовасьць і напружанасьць, панаваўшыя ў салі, ўжо прайдуць і што зараз-жа будзе ўсё ў парадку, і пачнецца справаздача, але якраз у гэты ўрачысты момэнт, праз чорны ўваход, няведама як адчыніўшы дзьверы, паказалася паліцыя і з ёю быўшы сябра Грамадзянскага Сабраньня, які дзеля сваіх нейкіх асабістых рахункаў і прывёў паліцыю...

Малады брунэтысты przodownik мігам праляцеў праз усю салю — ni z miejsca! panowie graliście w karty?!..

— „Гэта абмылка... Я абмыліўся, panie komisarze — закрычаў быўшы сябра Грамадзянскага Сабраньня...

— Cóż pan durnia ze mnie kleisz?!. Przepraszam, ja państwu nie przeszkadzam“...

Але парадак ужо зусім быў парушаны і выбаршчыкі пачалі адзін за адным пакідаць салю.

І дарэмна некаторыя накінуліся на быўшага сябра Грамадзянскага Сабраньня, дарэмна старшыня званіў і хацеў нешта сказаць—саля апусьцела і справаздача... не адбылася...

Г-ка.

*Канец.*

# Жыцьцё провінцыі.

### Злыбяды настаўнікаў.

Да нас пішуць настаўнікі з Дзісеншчыны аб незразумелай зусім палітыцы Школьнага Інспэктара гэтага павету. Захоўваючы орфографію аўтораў пры друку іхніх пісьмаў, пераконваемся, што сапраўды з граматыкай беларускай гэтыя настаўнікі знаёмы даволі слаба, адпэк пішуць яны мовою роднаю — і незразумела, чаму яны далі падпіску п. Інспэктару аб тым, што з мовою беларускаю яны незнаёмы, ці як яны выражаюцца, навет яе *не разумеюць*. Нашто-ж, нарэшце, гэткія падпіскі п. Інспэктар ад настаўнікаў вымагаў?

„Паважаныя браты і калегі-настаўнікі-беларусы!

У апошні мамэнт ў нас сярод настаўнікоў дужа востра пастаўлена справа: якобы паступіць на беларускія курсы, маючыя адкрыца ў Вільні і Кракаве. Хенць гэта так вяліка, што болей-менш кожны настаўнік гатовы пайсьці на ўніжэньня, альбо на разматыя закавычкі і кручкі, якія падстаўляе нам польская ўлада. Прычына гэтаму зьяўляецца, я думаю безрабоціца і матэр'яльная небяспека. Вот адзін з гэтых закавычкаў, а можа і горша, я хачу расказаць Вам калегі-настаўнікі. Інспэктар школьны Дзісненскага павету разаслаў для кожнага настаўніка гэткія паперы:

INSPEKTOR SZKOLNY POW. DZISNIEŃSKIEGO W GŁĘBOKIEM. ODPIS.
*Dn. 11/II 1925 r.*
№ 359/25.

Do Pana (imię i nazwisko) b. nauczyciela szkół powszechn rosyjskich w (miasto) gm. (nazwisko).

Celem przeznaczenia Pana na kursy dla b. nauczycieli rosyjskich zechce Pan zgłosić się w biurze Inspektoratu Szkolnego w Głębokiem (gmach starostwa) w dniu 16 lutego 1925 r. o godz. 11-tej rano przedkładając podanie poparte następującymi dokumentami: 1. Świadectwem lekarskim — lekarza powiatowego. 2. Dowodem obywatelstwa polskiego. 3 Dowodem tożsamości (fotografię stwierdzoną). 4 Dokumentami stwierdzającemi, że był Pan faktycznie nauczycielem rosyjskim i jak długo. 5. Dowodami stwierdzającemi praktykę w zawodzie nauczycielskim 6. Dowodami stwierdzającemi posiadanie kwalifikacyjne 7 Metryką urodzenia 8 Życiorysem. Należy załączyć dekrety nominacyjne przeniesienia. Zarazem zaznacza się, że podania nie przedłożone w wymienionym terminie uwzględnione nie będą.

Inspektor Szkolny *H. Szuszkiewicz.*

Нас, настаўнікаў, явілось ў Глыбокае каля 20-х. Прыём быў дужа ня прыхільны: каля 4 гадзін мы мусілі чакаць ў калідоры, і толькі, калі хто з нас пабываў ў доктара і заплаціў 3 злоты ў касу скарбову і купіў на 2 злоты герб. марак для доктарскага сьвідетельства, дык той быў дапушчаны да сэкрэтара. Цікава адзначыць тут тое, што падане і жыцёрыс, трэбавалась каб былі напісаны на польскай мове. У мяне-ж жыцёрыс быў напісаны на беларускай мове, на што пан сэкрэтар доўга не згаджаўся і трэбаваў каб я перавёў па польскі, і калі я адмовіўся, што па польскі не магу вытлумачыць тое, што напісаў па беларускі, дык тады. ён згадзіўся. Ен патрэбавал каб кожны падпісаў абавянзане, што калі акончыш курсы, то мусіш праслужыць настаўнікам 3 годы. Ну всё гэта нічога; але калі сэкрэтар патрэбаваў подпісу, што беларускай мовы не разумеем, дык нас дужа зацікавіло: як-жа мы урожденыя беларусы і не разумеем сваей мовы? Тады прыйшоў з другой каморкі Інспэктар і вытлумачыў гэтак: „Калі мы ня былі на беларускіх курсах і граматычна не разумеем (не разумеем) сваей мовы як належыць настаўніку, дык гэта усё роўна, што не разумеем беларускай мовы і што гэта абавязкова трэба, калі хто хочець папасьць на курсы. Мы доўга не згаджаліся з гэтым, але ў апошні час згадзіліся. Я цяпер ў доме і, прызнаца, дужа жалею, што падпісаў гэтую дэкларацыю. Маё пачуцьцё ў гэтым дужа занепакоена. Тут нешта хочуць зрабіць ня добрае для нас настаўнікоў-беларусаў. Ніяк не дадумаюсь дзеля якіх мэтаў гэта ім патрэбна, не хочуць лі яны з нас зрабіць польскіх настаўнікоў, а не беларускіх. Зьвяртаемся да Васі Т-ва „Прасьвета" разтлумачыць нам гэта здарэньня, а калі патрэбна дык зашчыціць нас ў газэце, што зроблена не добравольна, а прымусова.

Прачытаўшы у № 8 „Грам. Гол." от 20.II. 1925 г. ст. „Кандыдаты на настаўніцкія курсы" я знайшоў і сваю фамілію і увідзіў, што Т-ва „Прасьвета" о нас не мала забоціцца, а пагэтаму яшчэ раз маю гонор прасіць Т-ва „Прасьвета" памагчы у тэй же самай справе. Дело у тым, што інспектор Дзісьненскага пав разаслаў усім насгаўнікам, жадаючым папасьці на курсы адозвы, у каторых пераліч-ваюцца патрэбныя докумэнты курсантаў і каб мы явіліся 16. II. у Глыбокае для здачы яму гэтых докумэнтаў. Мы явілісь і калі отдавалі докумэнты, то от нас патребовалі напісаць і падпісаць прыблізна такую дэкларацыю: „Ja niżejpodpisany (імя і прозьвішча) białoruskiego języka nie posiadam". Выходзіць тое, што мы прыраждоныя беларусы не знаем сваей мовы. Праўда, граматычна мы пісаць яшче ня усе умеем, дык дзеля гэтаго ж мы і на курсы хочам папасьці. Но тут з'яўляецца думка, што тых, каторыя (бо ня усе) падпісалі гэту дэкларацыю могуць ня прыняць на бел. курсы, як няведаюшчых беларускай мовы, бы вядома усякаму, што на разныя курсы прынімаюцца людзі, нісаўсім няведаюшчыя, а ведаюшчыя той, ці другі прадмет дрэнна. Я у ліку другіх падпісаў вышепамянёную дэкларацыю і пагэтаму ласкаво прашу Т-ва „Прасьвета" калі гэта ашыбка, то дапамагчы яе направіць і даць мне атвет праз газ. „Гром. Голас".

**Сяло МІЛЬЧА,** *Вялейскага павету.*

У нашым сяле ёсьць старадаўняя брацкая магіла-курган. Вакол гэтага кургана гадоў з 50 назад былі пахаваны мясцовыя парафіяне. Самы верх кургана быў увенчаны каменным памятнікам. Шмат гадоў усё гэтае месца было ня кранута, не парушана, а ўтварылася граніца— ўсё зруйнована, разьвернена і чалавечыя косьці разам з пяском, які бярэцца з гэтага кургана, развозяцца жаўнерамі-пагранічнікамі ў няпрыстойныя месцы. 20 чысла мінулага месяца тыя-ж жаўнеры, па распараджэньні паручніка з мясцовага пастарунку, прыехалі і пачалі раскопаваць яшчэ больш гэтую магілу, павыкідалі шмат чалавечых касьцей і чарапоў. Убачыўшы гэта сьвяшчэньнік пачаў гаварыць, што гэтак рабіць нельга; ў гэты час падыйшоў паручнік, даўшы гэткае распараджэньне жаўнерам, і адразу груба і з задорам крыкнуў на бацюшку: „Precz psia krew", а калі сьвяшчэньнік паўтарыў, што гэтак рабіць нельга, дык паручнік яшчэ больш задорна закрычаў: „Psia krew, precz stąd". Сьвяшчэньнік прабаваў супакоіць разлаванага паручніка, але на гэта яшчэ больш пасыпалася страшэннай лаянкі. Усё гэта адбывалася пры масе сьведкаў.

Ці-ж гэта законам і сумленьнем дазваляецца? І ці гэтым можна дабіцца ў нас патрэбнага спакою й парадку?

**Сьведка.**

### Наваградак.

1-га гэтага сакавіка ў нашым месьце адбыўся агульны сход Таварыства Беларускае Пачатковае й Сярэдняе Школы ў Наваградку, на якім старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу п. Рагуля сказаў абшырную прамову. Старшынёй сходу быў віцэ-старшыня Управы Т-ва п. Аляксюк.

Ходзіць дзейка, што пасьля гэтага сходу была гутарка падняць ініцыятыву аб скліканьні палітычнае беларускае конфэрэнцыі.

*Наваградзкі.*

**Ад Рэдакцыі.** Аб чым гэта можа конфэраваць п. Аляксюк з п. Рагуляю? Ці не займуцца яны ўспамінамі аб першым сялянскім зьезьдзе ў Менску ў 1917 годзе, які разам з іншымі дзеячамі склікаў тады і п. Аляксюк і які быў сарваны п. Рагуляй, бачыўшым у гэтым зьезьдзе „*польскую інтрыгу*"?

Што ж? Tempora mutantur!

# Тутэйшая хроніка.

— **У Белар. Т-ве „Прасьвета".** У суботу, 25 мінулага лютага Беларускае Таварыства «Прасьвета» пераслала ў Куратарыюм Віленскага Школьнага Вокругу дадатковы сьпісак кандыдатаў і кандыдатак на настаўніцкія курсы, ў які ўвайшлі гэткія, прыслаўшыя ў «Прасьвету» свае дакумэнты, асобы: 1) Коцелло Янка, 2) Шэміот-Палачанскі Кастусь, 3) Завадзкі Міхась, 4) Курыла Янка, 5) Давідовіч Людзьміла, 6) Гардзейчык Ганна, 7) Клаўсуць Лідзя, 8) Коцелло Мар'я, 9) Малейка Алёна і 10) Плотка Вольга.

— **Аб прызыве народжаных ў 1903 г.** Паміж 15 і 22 сакавіка адбудзецца залічэньне ў армію тых прызыўных, народжаных у 1903 г., прызыў якіх у армію быў назначаны на 1-е красавіка сёлетняга году.

Пры зьяўленьні прызыўных, апошнія павінны мець пры сабе чэмадан-сундук з 60 сант. даўжыні і 36—40 сант. шырыні. Сундукі большыя будуць адбірацца ад прызыўных і здавацца на перахаваньне ў склады.

— **Сярод праваслаўных.** «Виленское Утро» піша, што, паводлуг вестак з Варшавы, рэктар Віденскае Духоўнае Сэмінарыі, епіскап Антоні, адтрымлівае высокае назначэньне з наданьнем яму сану архіепіскапа.

— **Гарадзкія падаткі.** На аснове пастановы Гарадзкое Рады за 11-XII 1924 году, зацьверджанае Дэлегатам Ураду 31-I 1925 г., ўсе асобы, якія заўсёды пражываюць у Вільні, ня вылучаючы жыхароў вёсак, хутароў і фальваркаў, што ляжаць у межах места, абавязаны заплаціць у магістрацкую касу падатак за 1925 год не пазьней 15-га гэтага 1) за кожны вэлісапэд па 10 злотых, 2) за пасажырскі самаход па 10 злотых ад кожнае конскае сілы і ня больш як 120 злотых за кожны самаход, 3) за мотоцыкль па 5 злотых ад кожнае конскае сілы і ня больш як 20 злотых за мотоцыкль Пры незаплаце гэтых падаткаў у вызначаны час будуць прымусова сьцягвацца штрафы ў разьмеры 4 проц. штомесяца.

— **У Час. Бел. Радзе.** На пасяджаньні пленуму Раду 27 лютага заслухана была прапазыцыя Старшыні Украінскае Народнае Партыі д-ра Оскілко прыехаць Старшыні Часов. Рады у м. Роўна на нараду.

Пастаноўлела запрасіць прадстаўнікоў Укр. Нар. Партыі на укр.-белар. конфэрэнцыю ў Вільню, дзеля таго, што контакт з гэтаю украінскаю партыяю зьяўляецца пажаданым і раней у прапанованы украінцамі час ня мог быць навязаны па тэхнічных прычынах.

— **Падмога безработным.** За месяц люты управа абвадовага фонду безработных ў Вільні выплаціў падмогаў безработным на суму 11.200 злотых, а ад пачатку году да 1 гэтага сакавіка агулам выдана падмогаў 17.440 зл., а пазычак выдана 5.220 злот.

# УСЯЧЫНА.

### Нязвычайнае ў клімаце.

У краёх сярэдняе і паўночнае Эўропы, як вядома, сёлетняя зіма вызначаецца нязвычайнаю цяплынёю (высокаю тэмпэратураю). У Швэцыі, напрыклад, мінулы сьнежань 1924 г. быў самым цёплым сьнежнем пасьля 1789 году (135 гадоў назад). Наадварот, на паўдні заўважаюцца моцныя маразы, як напрыклад у Італіі. Навет з Арабіі адтрымліваюцца весткі аб над'звычайна вострай зіме і ў Арабскай пустыні ляжаў сьнег таўшчынёю ў некалькі сантымэтраў. Насяленьне, ня прывыкшае да гэткага холаду, а таксама жывёлы і расьліны, вельмі церпяць ад марозу.

### Загранічны гумар.

*Нагляднвя мэтода.* Фарсіста апранены пан заходзіць да мясное крамы і просіць 18 фунтаў мяса.

— Валовага ці сьвінога? — пытаецца мясьнік.

— Усё роўна якога, — чуе адказ.

— Мясьнік выбраў добры кавалак мяса, адважыў яго і пытаецца, куды адаслаць.

А госьць на гэта адказвае:

— Дзякую, мне саўсім непатрэбна мяса. Я зрабіўся на курорце цяжэйшым на 18 фунтаў і хацеў толькі паглядзець, што гэта за кавалак мяса.

(„Prager Presse").

## Паштовая скрынка.

**С. Беганскаму, Райчонку, Дунцу, Медзюху і Вештарду.** Календар на 1925 г. выданы Беларускім Грамадзянскім Сабраньнем у Вільні, якое абяцала даць Рэдакцыі нашае газэты патрэбны лік экзэмпляраў для рассылкі падпісчыкам за 1924 год бясплатна. Дзеля таго, што Грамадзянскае Сабраньне выдаць календары ў распараджэньне Рэдакцыі адмовілася, дык Рэдакцыя, ня маючы патрэбнага на закуп календароў крэдыту, пакуль што, ня можа выслаць вам календара і зробіць гэта пры магчымасьці ў хуткім часе.

**Кіёнку Я.** Газэту вышлем. Зрабеце надпіску. Даплатных пісьмаў прымаць ня будзем.

**Атрахімовіч** Міхей, **Цыўнель** Язэп, **Піровіч** Язэп, **Юргель** І., **Дзядзюля** Кастусь, **Бурдукевіч** Янка, **Жалейка** Язэп, **Кіёнак** Янка—пісьмы адтр., газэта высылаецца.

**Мацулевіч, Паўлоўскі** Тэафіль, **Кіслы** Браніслаў, Солтыс **в. Габітацыя**—на просьбу ў пісьме газэта высылаецца.

**С. Курыловіч** — газэту высылаем.

Бібліятэка Навук. Т-ва ім. Шэўчэнкі—патрэбныя №№ дасылаем.

**Дулінец Фр.,** 10 зл. адтрымана.

**Белановіч** Т., **Аленскі** Альгерд, **Кавалеўскі** Сымон — грошы адтрыманы.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.